**Што нам Чачня?** 2 стар.

**На гадзінку ў Паставы**

**Наведайце Паставы** 6 стар.




**Піце піва, мужыкі!** 7 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | № 11(102) 14 -- 20 сакавіка 2002 года | Кошт па дамове



*Фота Ю.Калбасіча*

Мы ўжо прызвычаіліся жыць па ўсходнім календары. Варушым гараскопы, кожны год мяняем звярыную сімволіку. Зараз год каня, жывёлы, якая, бадай, самая карысная на сяле. Конь замяняе вяскоўцам і аўтамабіль, і трактар. Але наша размова аб незвычайнай школе, у якой вучаць трымацца ў сядле сапраўдных скакуноў. *(працяг матэрыяла чытайце на стар.2)*

## Чаму ж нам не пець?..

Твор «Магутны Божа» на словы Наталлі Арсенневай, музыку да якога напісаў Мікола Равенскі, абраны беларускім нацыянальным гімнам на ўрачыстым сходзе ў Палацы мастацтва 10 сакавіка. Прадстаўнікі інтэлігенцыі, навукоўцы, палітыкі большасцю галасоў абралі за гімн беларускае дыяспары, які будзе спрыяць кансалідацыі нацыі ў моцную супольнасць і натхняць на стваральную працу.

## Наперадзе -- выбары

Сябры КРДС разгледзелі вынікі стратэгічнага планавання, на якім былі абмеркаваныя пытанні правядзення мясцовых выбараў 2003 года. Удзельнікі паседжання ацанілі мясцовыя выбары не як самамэту для апазіцыйных сілаў, а як этап на шляху дэмакратызацыі беларускага грамадства. На паседжанні кааліцыі было абмеркавана таксама пытанне святкавання Дня волі ў Мінску і гарадах Беларусі.

Сілы абароны Ізраіля знішчылі рэзідэнцыю лідэра Палестынскай аўтаноміі Ясера Арафата. Гэта акцыя стала фактычна помстаю за шэраг тэрактаў на тэрыторыі Ізраіля, учыненых тэрарыстамі-самагубцамі. Працяглы ўжо час ізраільскі ўрад завінавачвае за арганізацыю альбо спрыянне злачынствам кіраўніка Палестыны.

**Станіслаў Шушкевіч**, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, перад пачаткам судовага паседжання ў судзе Маскоўскага раёна, на якім будзе разгледжана яго права на персанальную пенсію ў памеры 75 % акладу кіраўніка Вярхоўнага Савета альбо кіраўніка ўрада, г. Мінск, 11 сакавіка 2002 года. Цяпер Станіслаў Шушкевіч атрымлівае пенсію, якая раўняецца 1,8 долара.



*Фота IREX ProMedia*

## Слынны, Полацкі

Полацкі дзяржаўны універсітэт даўно ўжо заслужыў славу буйнога навуковага цэнтра, без якога наўрад ці можна ўявіць нармальнае функцыяванне ўсяго рэгіёну.

На дзесяці факультэтах універсітэта навучаецца больш 6 тысяч студэнтаў. У мінулым годзе наваполацкая альма матэр выпусціла746 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй па 21 спецыяльнасцях. Сёлета іх колькасць узрасла да 24. Па 16 спецыяльнасцях вядзецца магістэрская і аспірантская падрыхтоўка. У мінулым годзе 11 супрацоўнікаў ПДУ абаранілі кандыдацкія дысэртацыі, і яшчэ адзін стаў доктарам навук. Ва універсітэце працуюць тры спецыялізаваныя саветы па абароне кандыдацкіх дысертацый па 6 навуковых спецыяльнасцях. Выкананы аб`ём навукова-даследчых работ і навукова-тэхнічных паслуг за мінулы год склаў 958 мільёнаў рублёў. Больш 80 % усіх даследванняў тут праводзіцца для прадпрыемстваў і арганізацый Віцебскай вобласці.

*А.Аляксандраў.*



Па Віцебскай вобласці адбылося 29 пажараў, страты ад якіх склалі 10 мільёнаў 836 тысяч рублёў. Агнём знішчана 4 тоны кармоў, пашкоджаны 16 і знішчана 3 будынкі. У агні загінула 3 чалавекі, аказана дапамога ў 9 выпадках; інспекцыямі аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёл праведзена 32 рэйды па вадаёмах і паляўнічых угоддзях вобласці, выяўлена 74 парушэнні правілаў рыбалоўства, 3 - правілаў палявання і 14 парушэнняў норм экалагічнай бяспекі. У парушальнікаў адабрана 22 сеткі, 23 іншых забароненых прылад лову і 3 стрэльбы. Вінаватыя прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 4/03/2002 0:00 GMT

| | 14/3 Чц | 15/3 Пт | 16/3 Сб | 17/3 Нд | 18/3 Пн | 19/3 Ат | 20/3 Ср | 21/3 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | 0 | -1 | +1 | +3 | +5 | +3 | +3 | +1 |
| з 2 гадзін | -1 | -5 | -7 | -5 | -4 | -1 | -6 | -9 |
| Ціск, мм рт.сл. | 747 | 758 | 759 | 760 | 756 | 752 | 755 | 758 |
| Тэндэнцыя ціску | -12 | -12 | -12 | -12 | -12 | -12 | -12 | -12 |
| Накірунак ветру | Зах | Пн | Зах | Пн | Зах | Пн | Пд-З | Пд-З |
| Хуткасць ветру, м/с | 6 | 5 | 3 | 1 | 4 | 3 | 4 | 3 |

© Gismeteo.Ru

*Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне дадзены ў прывязцы да г. Полацка

**Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.**

**Нагадваем, што наша выданне ўжо можна выпісаць і на Пастаўшчыне.**

# Што нам Чачня?

**А ці параўноўваў ты сябе, беларусок, калі-небудзь з чачэнцам? Як і думка такая магла прысці ў галаву? – спытаеш. Мы ж пасярод Еўропы, а яны недзе там у гарах, ледзь не ў Азіі. Мы хрысціяне, а яны мусульмане... Ды адрозненняў не пералічыць. Мы ў рэшце рэшт мірныя людзі, а яны ваююць. А між тым агульнае ў нас ёсць, часам, праўда, агульнае наадварот. І не толькі таму, што мы некалі былі ў адной "гістарычнай супольнасці савецкі народ". Трэба толькі азірнуцца ў мінулае.**

**Як мы патрапілі ў Расійскую імперыю?**

Пачнём з Чачні. На Каўказ Санкт-Пецярбург "кінуў вока" рана. Але пачатак экспансіі можна аднесці да XVIII стагоддзя. Трэба сказаць, што продкі цяперашніх чачэнцаў былі з тых народаў Каўказа, якія найбольш доўга і ўпарта змагаліся супраць рускіх. У 1845 годзе іхні Шаміль разграміў войскі князя Варанцова, той страціў 3,5 тысячы салдат і афіцэраў. Ну а метады царызму былі адпаведныя. Славуты генерал Ярмолаў пісаў: "Я вынішчыў... вёскі джэнгутайскія, у якіх асмеліліся яны ( горцы) падняць зброю супраць нас, і разам з імі аддаў агню ўсе дамы і маёмасць." Але пасля вельмі працяглай партызанскай вайны Шаміль быў захоплены ў палон. У 1859 годзе тэрыторыя сучаснай Чэчні, народ якой упамінаецца ў пісьмовых крыніцах яшчэ ў VII стагоддзі, была далучана да Расіі.

Нашы землі трапілі ў Расійскую імперыю ў канцы XVIII стагоддзя. За тры разы тры імперыі, Расійская, Аўстрыйская і Пруская, дамовіўшыся паміж сабою, расшкуматалі Рэч Паспалітую, у якую ўваходзілі і нашы землі. Расія ў тыя 1772, 1793 і 1795 адкусвала сабе якраз нашу зямлю. Мы некалі любілі цытаваць класікаў пэўнага кшталту. Што ж, працытуем. Энгельс: " Тры дзяржавы, аднойчы ўжо абрабаваўшы Польшчу... зноў кінуліся на Польшчу з намерам канчаткова пазбавіць яе нацыянальнага існавання." Даўна ўжо не трэба даказваць, што Рэч Паспалітая, якую шкуматалі імперыі суседзі – гэта раўнапраўны саюз самой Польшчы і нашага Вялікага Княства. Ну, на той час пра раўнапраўны саюз ужо можна было гаварыць з нацяжкай. Як цяпер пра раўнапраўны саюз Расіі з Беларуссю. Але тая дзяржава была далёка не адсталай, як нас вучылі. Так што далучэнне да Расіі сталася нам пэўным рэгрэсам. Пацвердзім зноў жа колішнім класікам. Маркс: "У 1793 годзе, калі Расія, Аўстрыя і Прусія дзялілі паміж сабою Польшчу, гэтыя тры дзяржавы спасылаліся на канстытуцыю 1791 года, якая была аднадушна асуджаная за яе якабінскія прынцыпы... перадачу заканадаўчых функцый у рукі народных прадстаўнікоў, свабоду друку, свабоду веравызнання, галоснасць судавытворчасці, адмену прыгоннага права і г.д." Бачыце, аказваецца, у якой дзяржаве жылі нашы продкі, а траплялі зноў у напаўазіяцкую імперыю, дзе верхаводзіла воля, альбо капрыз цара. І няўжо ж чачэнцы з іх раннефеадальнымі адносінамі ў тыя часы змагаліся, а мы цярпелі ці нават "радасна" далучаліся?

Ды не, зусім не. Былі ў нас паўстанні 1794 года, 1831 года, паўстанне 1863-64 гадоў. І не польская шляхта ўздымала гэтыя паўстанні, а беларускія сяляне сілай уцягваліся ў іх. Прачытайце толькі прозвішчы правадыроў. Так, паўстанні гэтыя не сталі ўсеабдымнымі, не прынеслі вызвалення. Але сам факт збройнага супраціву нашых продкаў расійскай каланізацыі неаспрэчны. І побач з іхнім, чачэнскім Шамілём мы можам з гордасцю паставіць яшчэ вышэйшую постаць Кастуся Каліноўскага. Царскія ўлады не надта і баяліся гэтага Шаміля, хаця праліў ён нямала рускай крыві. Ён пабыў ганаровым палонным у цэнтры Расіі, а потым і ўвогуле быў адпушчаны ў Мекку. Нашага ж Каліноўскага проста павесілі. Мне здаецца, што потым, у 1881 годзе, кідаючы бомбу ў цара Аляксандра II, беларус Грынявіцкі помсціў за беларуса Каліноўскага.

Ну дык ці ёсць хоць нейкія паралелі?

Пакінем па-за ўвагай часы царызму, часы грамадзянскай вайны. Хаця і тут было б пра што пагаварыць. Служылі ў царскай арміі і беларускія, і чачэнскія афіцэры, нават высокія чыны атрымлівалі. У грамадзянскую Чырвоную армію на Каўказе прымалі кулямі і камянямі. Ды і на Беларусі было Слуцкае збройнае паўстанне, партызанская вайна Булак-Булаховіча.

За Айчынную вайну Беларусь празвалі рэспублікай-партызанкай. Але ж было і іншае. Былі тысячы і тысячы тых, хто ваеннае супрацьстаянне дзвюх імперый, Сталінскай і Гітлераўскай спрабавалі выкарыстаць для аднаўлення незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны. Іх доўга называлі здраднікамі, афіцыйна не прызнаюць і цяпер. Але гэта было. У маім родным Пастаўскім раёне апошні свядомы барацьбіт за незалежную Беларусь, Яўген Жыхар застрэліўся на хутары акружаны эмгэбістамі ў 1955 годзе. Яго спрабавалі назваць нямецкім шпіёнам. Гэта ўжо ў сярэдзіне пяцідзесятых. Называлі бандытам. Але бандыта мясцовае насельніцтва так доўга не падтрымлівала б.

А што Чачня? Значная частка яе тэрыторыі была пад немцам таксама, канечне, непрацяглы час. Ды , відаць , часу хапіла, каб і сярод чачэнцаў узніклі думкі аб шчаслівым выпадку выйсці з –пад улады Расіі. Інакш за што тады ўвесь чачэнскі народ у 1944 годзе быў дэпартаваны, сілай вывезены ў далёкія краі. І дазвол на вяртанне далі, рэспубліку аднавілі толькі ў 1959 годзе. Толькі ўдумайцеся: да якога абсурду даходзіла ў сваёй палітыцы імперыя. Узялі і скасавалі рэспубліку, народ. Потым... Потым перадумалі. Відаць, са знешнепалітычных меркаванняў.

А што ў камуністычныя часы? Ёсць у нас таксама адна агульная рыса. Вось Энцыклапедычны слоўнік за 1990 год. Фраза пра прамысловасць тады яшчэ Чачэна-Інгушэціі пачынаецца так: "нафтаздабыча, нафтаперапрацоўка, нафтахімія, нафтамашынабудаванне..." Бачыце, гэта ўжо не толькі прывязка да невялікіх запасаў нафты ў рэспубліцы. Гэта своеасаблівая спецыялізацыя, якая эканамічна робіць праблематычным адасобленае існаванне рэспублікі.

З таго ж энцыклапедычнага слоўніка пра прамысловасць Беларусі: "аўта і трактарабудаванне, станкабудаванне, сельгасмашбудаванне, радыёэлектроніка." У нас спецыялізацыя была іншай, нас зрабілі своеасаблівым зборачным цэхам.

Ну дык ці ёсць хоць нейкае падабенства?

Дарэчы, самі чачэнцы не называюць сябе так. Яны самі сабе – нохчій. І нашы продкі спакон веку называлі сябе крывічамі, палачанамі, ліцьвінамі (не будзем блытаць з літоўцамі). Гэта з ласкі рускіх гісторыкаў і вучоных сталі мы беларусцамі.

Мы атрымалі цяперашнюю сваю незалежнасць з лёгкасцю незвычайнай, проста ўслед за суседзямі. Чачэнцы зразумелі, што ў тых абставінах можна было выкарыстаць шанц для аддзялення ад Расіі. У іх з'явіўся генерал Дудаеў.

Вось за апошнія дзесяць гадоў мы прайшлі розныя шляхі. Вядомы чачэнскі, вядомы і наш. У чачэнскім грамадстве, якое спачатку было бадай што аднадушным у жаданні свайго суверэнітэту, адбыўся раскол. І калі глядзець непрадузята, сённяшняе збройнае процістаянне Маскве існуе і будзе існаваць толькі дзякуючы грашовай падпітцы звонку. Ідэалы той барацьбы за незалежнасць, якія былі напачатку, размываюцца гэтым патокам.

І наша сённяшняя апазіцыя прайшла шлях эвалюцыі. І сёння яна, існуючы таксама дзякуючы ў многім падпітцы звонку, ужо не такая цвёрдая ў адстойванні самога прынцыпу нацыянальнай незалежнасці.

*Алесь Касьцень*

# Школа, дзе вучаць трымацца ў сядле



Рымко Вольга, студэнтка Горацкай сельскагаспадарчай Акадэміі, будучы заатэхнік, майстар-вершнік Азярэцкай конна-спартыўнай школы

Калі выехаць з Глыбокага па Чырвонаармейскай вуліцы і мінуць лясны масіў, на ўскрайку дарогі можна заўважыць цікавае відовішча. Падлеткі вярхом на скакунах-прыгажунах выконваюць розныя «па». Ідуць заняткі ў Азярэцкай конна-спартыўнай школе. Трэнерам гэтай школы працуе Алена Алегаўна Вязменева, чалавек улюбёны ў сваю справу, апантаны ёй. Заняткі праходзяць круглы год на адкрытым паветры. Школу наведваюць вучні гарадскіх школ, большасць – з СШ №3, бо месца даволі аддаленае. Хаця незразумела, чаму падлеткі з раёна Беразвечча не праяўляюць цікавасці да такой магчымасці цудоўна правесці вольны час. З першага погляду здаецца, што надта проста ўскочыць на каня і прымусіць яго рухацца. Але, як мне патлумачыла ў час гутаркі Алена Алегаўна, гэтаму трэба яшчэ навучацца і мець добрую спартыўную падрыхтоўку. Бывае, што займаецца дзяўчына доўгі час, а каня пусціць галопам не можа.

Конна-спартыўная школа існуе з восені 1999 года, адпаведнае аддзяленне створана і пры Глыбоцкай дзіцячай юнацка-спартыўнай школе. У маладой школы ёсць свае дасягненні. Гэта кубак Беларусі ў малодшай групе ў конным прабегу ў 1999 годзе і чацвёртае месца ў тых жа спаборніцтвах 2000 года.

Рымко Надзя, Хайноўская Алена, Хайноўская Наталля, Манулік Лена рэгулярна наведваюць трэніроўкі і прэтэндуюць на новыя перамогі.

Кіраўнік школы разам са сваімі выхаванцамі развіваюць конны турызм. У 2000-м годзе яны здзейснілі першы конны паход. Хадзілі ў Пастаўскі раён на сем дзён. Коні былі пад сёдламі і ўючныя. У гэтым годзе плануецца некалькі такіх паходаў. Першым маршрутам будуць плісскія азёры, азёры Мядзель і Звань. Маршрут будзе таксама семідзённы, а для ўдзелу ў ім будуць запрошаны турысты з горада.

Конны спорт – даволі дарагі занятак. Але кіраўніцтва саўгаса "Азярцы" не пакідае школу без увагі. Коні забяспечаны кармамі, а юныя спартсмены маюць магчымасць выконваць разрады на племянным арабскім скакуне, якога прывезлі з Гродна. Ёсць у школе коні з Горак, з Санкт- Пецярбурга, але падрастаюць жарабяты, якія ў хуткім часе дапамогуць вырашыць праблему недахопу спартыўных коней. Дапамагаюць школе і госці з Мінска. Прыехаць на машыне і пакатацца на конях жыхарам сталіцы танней, чым плаціць за гэта ў Мінску. Грошы з іх не бяруць, а вось снаражэннем яны дапамагаюць нашым спартсменам. А што калі разгарнуць гэту справу шырока, узяць ліцэнзію, прывабіць турыстаў не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы?

Аднак ніякія фінансавыя цяжкасці не перашкодзяць справе, у якую ўкладваюць душу, якая акрыляе і пакідае адно жаданне – прачнуцца раніцай, сесці ў сядло і імчаць наперагонкі з ветрам.

*Ю.Калбасіч (фота аўтара)*

# Знік Юрась Корбан

У Віцебску знік кіраўнік маладзёжнага аб'яднання "Контур" Юрась Корбан. У 23 гадзіны 19 студзеня 2002 года ён выйшаў са сваёй кватэры па вул. Лакаматыўнай у Віцебску і не вярнуўся. Пра яго далейшы лёс нічога дагэтуль не вядома.

Ю. Корбан аб'яўлены ў вышук Чыгуначным РАУС Віцебска. Таму просьба да ўсіх грамадзян, якім што-небудзь вядома пра яго месцазнаходжанне, пазваніць па тэлефонах у Віцебску: **21-07-98, 22-91-41** або **8-029-6017262**. Пры неабходнасці ананімнасць гарантуецца.

Прыкметы Юрася Корбана: на выгляд 23-25 гадоў, рост 175 см, вочы шэра-блакітныя, валасы прамыя, русыя, сярэдняга целаскладу. Носіць акуляры для карэкцыі зроку. Быў апрануты ў дублёнку чорнага колеру, чорныя джынсы, чорную скураную шапку з казырком. Пры сабе меў чорную барсетку і мабільны тэлефон.

# Рэгіён



**в. Порплішча**

(Докшыцкі раён)

**Спаса Праабражэнская царква.**

Пабудавана ў 1627 г. з дрэва, у 1794 г. значна перабудавана, у 1884 г. прыбудавана званіца. Помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

*Фота Ул. Скрабатуна*

## Пачасціліся адключэнні

Напярэдадні чарговага паседжання камісіі па неплацяжах за электраэнергію ў Шаркоўшчынскім раёне спецыялісты энерганагляду правялі масавую серыю адключэнняў спажыўцоў ад сеткі. Найбольш пацярпеў камбінат будматэрыялаў. На ім абясточылі, акрамя канторы, шэраг асноўных цэхаў і пілараму. Гэтаму і іншым даўжнікам дадуць энергію толькі тады, калі хоць частка пастуняць грошы за паслугі. Калі на прамыслоўцаў яшчэ можна знайсці ўправу, дык невядома, што рабіць з калгаснай вёскай. За мінулы год мясцовыя прадпрыемствы дасягнулі ўзроўню аплаты 70 працэнтаў, а вось калгасы пераплацілі за спажытую электраэнергію толькі 5,2 працэнта ад неабходнай сумы, а саўгас "Верацеі" – наогул 0,2 працэнта. Адзінай гаспадаркай, якая змагла аплочваць бягучае спажыванне электрычнасці, застаўся калгас імя Кутузава, а ў цэлым год па раёну перавысіў 1,2 мільярда рублёў.

*У.Шык*

## Справа-«труба»

Нягледзячы на попыт сваёй прадукцыі, усё горш складваюцца справы на торфа-брыкетным заводзе "Віцебскі", што ў Докшыцкім раёне. Хоць яго вырабы набываюць і ў далёкім замежжы, страты ад асноўнай дзейнасці склалі каля 170 мільёнаў рублёў. Амаль на трэць знізіліся аб'ёмы нарыхтовак торфу і вытворчасць паліва. І гэты калектыў не адзін. З 50 суб'ектаў гаспадарання 20 з'яўляюцца стратнымі (у 2000 годзе іх было 11). Усё больш прадпрыемстваў, арганізацый і калгасаў раёна становяцца неплацёжаздольнымі. Іх велізарныя запазычанасці за год выраслі яшчэ ў два разы. Не цяжка здагадацца, што будзе з імі, калі пачнецца лібералізацыя эканомікі. А пакуль нічога не памянялася. Недахоп па плацяжах у бюджэт і мэтавыя фонды па раёну ў пачатку студзеня перавысілі 566, 5 млн. рублёў. Адсюль і нізкі ўзровень жыцця, і іншая бытавая неўладкаванасць.

*У. Шык*

# Просценькі подпіс

**Як вы распісваецеся ? Разумею, што некага здзівіць гэта пытанне. Кожны чалавек распісваецца так, як прызвычаіўся ў гады юнацтва, калі ўпершыню пачаў ставіць свой подпіс пад дакументамі, атрымліваць нейкія грошы. І адносіны чалавека да ўласнага подпісу, напэўна, адпавядаюць складу яго характару, тэмпераменту, амбіцыйнасці ў рэшце рэшт. Нехта любіць "выдаць" подпіс з завіткамі і іншымі магчымымі ўпрыгожваннямі, нехта проста піша сваё прозвішча, а нехта грамзане на паперы некалькі рысак і лічыць, што гэта дастаткова. Але бываюць, аказваецца, сітуацыі, калі якраз і недастаткова. Але давайце ўсё па-парадку.**

Ёсць у Пастаўскім раёне калгас «Праўда». А ў гэтым калгасе жывуць пенсіянеры, муж і жонка Алена Іванаўна і Франц Францавіч Шылько. Як і пераважная большасць пенсіянераў у нашай вёсцы трымаюць жывёлу, апрацоўваюць зямлю. Здаюць малако дзяржаве. Вось з-за малака і атрымалася гэта непрыемная гісторыя. Цягнецца яна ўжо шмат часу, але развязкі пакуль што не бачыцца.

Сутнасць справы такая: Алена Іванаўна Шылько звяртаецца ў розныя інстанцыі і органы са скаргай, што ёй не выдадзены грошы ў суме 10319 рублёў за здадзенае малако ў перыяд з 1.08 па 15.08 2000 года. А ў ведамасці на атрыманне грошай пастаўлены подпіс не яе мужа. З другога боку эканаміст калгаса Е.Гігола, нам. галоўнага бухгалтара Р.Далжонак, галоўны бухгалтар О.Сенюковіч тлумачаць, што пры першапачатковым прад'яўленні ведамасці Франц Францавіч Шылько ўказваў, што подпіс пастаўлены ім. А потым, пад ціскам жонкі, пачаў сцвярджаць, што распісваўся не ён.

З аднаго боку сям'я вясковых пенсіянераў. З другога боку работнікі бухгалтэрыі.

Рыхтуючы гэты артыкул, я размаўляў з многімі людзьмі. Пэўнае ўяўленне аб сітуацыі ў калгасе, людзях, што ўцягнуты ў канфлікт, з'явілася. Людзі ў бухгалтэрыі калгаса працуюць адказныя, сумленныя. Ды, калі папраўдзе гаварыць, сума, па-цяперашняму навет курсу нашага беларускага рубля нязначная для таго, каб адказныя работнікі, што ўсё жыццё маюць справу з чужымі грашыма, уступалі ў змову, каб абрабаваць няшчасных пенсіянераў. Ды яны ж і жывуць у адной вёсцы, практычна кожны дзень сустракаюцца вочы ў вочы.

Але. І сямью пенсіянераў Шылько на вёсцы паважаюць. Простыя, працавітыя, сумленныя людзі. І не сябруе Франц Францавіч з чаркай. Першае, што нехта з чытачоў падумаў, магчыма. Атрымаў грошы, прапіў, цяпер і не сазнаецца жонцы, гаворыць , што не ён распісваўся. Не, сітуацыя не тая. А грошы, між іншым для сям'і па тым часе былі немалыя.

Пачаў гэту размову я з подпісаў. Дык цяпер і аб іх. Заява Алены Іванаўны Шылько дайшла да Віцебска. І вось адтуль, з экспертна-крыміналістычнага цэнтра ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама прыйшоў наступны адказ: " Рашыць пытанне аб тым, кім Шылько Ф.Ф. альбо іншай асобай выкананы подпісы ў графах ад імя Шылько Ф.Ф. і Пляшкун А.І. у прадстаўленай на даследванне плацёжнай ведамасці №134 за малако калгасам "Праўда" з 1 па 15 жніўня не прадстаўляецца магчымым па прычыне прастаты выканання дадзеных подпісаў, іх графічнай і ідэнтыфікацыйнай малаінфармацыйнасці і нязначнасці, немагчымасцю ў сувязі з вышэйуказанымі прычынамі выдзеліць той альбо іншы комплекс прыкмет дастатковы для якой-небудзь пэўнай высновы. Прыкмет тэхнічнай падробкі дадзеных подпісаў не ўстаноўлена." Адказ я прывёў, захаваўшы сінтаксіс арыгіналу. Не ведаю, ці поўнасцю зразумелі яго пенсіянеры Шылько. Нам жа зразумела, што просценька распісваўся ў ведамасцях малаадукаваны Франц Францавіч, і таму экспертыза не можа вызначыць яго гэта подпіс альбо не.

Усё. Далей звяртацца няма куды. У калгаснай бухгалтэрыі лічаць сябе пакрыўджанымі, бо іх падазраюць у недобрасумленнасці. Пенсіянеры Шылько лічаць сябе пакрыўджанымі, бо не атрымалі грошай. Яны навят малако цяпер здаюць не ў сваю гаспадарку, а ў суседні калгас. Што ж да парадаў звярнуцца ў суд, то пенсіянеры Шылько гэтага рабіць, думаецца, усё-такі не будуць. Простаму вяскоўцу само вызначэнне "суд" нясе негатыўныя эмоцыі, а то і пачуццё боязі.

Дык што – развядзём рукамі? У дадзеным выпадку, бадай што так.

Ды толькі розныя думкі агортваюць. Вяскоўцы здаюць малако не калгасу, а дзяржаве. Калгас выступае своеасаблівым пасрэднікам. Збірае малако з падвор'яў жыхароў вёсак, завозіць яго на малаказавод. Атрымлівае грошы за гэта малако і потым выплочвае яго людзям. Што казаць, калі заводы разлічваюцца за здадзенае малако досыць карэктна і своечасова, то ў калгасах бываюць выпадкі і затрымак. Ці мала яшчэ якая пільная патрэба ў грашах узнікае. Да таго, каб разлікі былі безнаяўнымі, каб грошы адразу паступалі на рахункі здатчыкаў малака, мы дажывём яшчэ не хутка. І ці дажывём увогуле.

Сляды гэтай непрыемнай гісторыі з цягам часу сатруцца ў памяці людзей. Знікне і крыўда. Ды толькі рэчаіснасць цяперашняга вясковага жыцця такая, што глебы для падобных ды і іншых канфліктаў хапае.

*Алесь Касцень*

## З урока ў краму

Не паспеў адчыніцца ў Вітуніцкай СШ Докшыцкага раёна свой магазін, як адразу набыў папулярнасць у дарослых і дзяцей. Задаволены і жыхары вёскі, бо гаспадар крамы – санаторый-прафілакторый "Баравое", забяспечвае ўсіх смачным хлебам са сталіцы і іншымі прысмакамі. Працэй стала забяспечваць усім неабходным і выхаванцаў садка, і дзіцячага сацыяльнага прытулку, якія дзейнічаюць пры школе. Усе дзеці на пераменах паміж урокамі могуць нешта з'есці, папіць сокаў, купіць сшыткі, алоўкі і іншыя школьныя прылады на месцы. Дзякуючы намаганням дырэктара Леаніда Крыўко і спонсараў удалося ўмацаваць матэрыяльную базу школы-сада-прытулку, што вельмі няпроста ў наш час. Тут нават пачала дзейнічаць свая пральня, а школьную гаспадарку папоўнілі пяць халадзільнікаў.

## Таюць працоўныя рэсурсы

Калі чвэрць стагоддзя таму маладзенькім фельдшарам прыехала працаваць у Сітцаўскую сельскую бальніцу Докшыцкага раёна Ларыса Данская, у зоне яе абслугоўвання было 3600 кліентаў. Цяпер на ўліку 1177 амбулаторных картак. Штомесяц па некалькі яны закрываюцца назаўсёды. Дэмаграфічная яма прывяла да таго, што ў Бярэзінскім краі пенсіянераў стала на паўтары тысячы больш чым тых, хто працуе. Вялікае пытанне – хто ў будучым паклапаціцца аб падзжылых, бо ва ўсіх галінах імкліва памяншаюцца працоўныя рэсурсы. За год толькі ў сельскай гаспадарцы стала меней на 271 чалавека. Заводы і фабрыкі парадзелі яшчэ на 126 чалавек. Па прагнозах да 2005 года насельніцтва раёна паменшылася яшчэ на 2800 чалавек. Калі ўлічыць, што ў АПК усяго працуе крыху болей чатырох тысяч калгаснікаў, усіх у краі чакаюць цяжкія часы.

## Парадавалі трэнера

Асабліва стараліся вызначыцца гаспадары рэспубліканскага турніра па грэка-рымскай барацьбе сярод юнакоў, які прайшоў у Глыбокім і стаў ужо традыцыйным. Яго арганізатары прысвяцілі пачатак спаборніцтваў святкаванню 60-годдзя заснавальніка мясцовай школы барцоў, майстра спорта Аляксандра Кузняцова. Асабліва радасна было трэнеру, які адпрацаваў тут 26 год, што яго прыехалі павіншаваць вучні і калегі. Сярод іх неаднаразовы чэмпіён свету віцебчанін Ігар Канькін. За чвэрць стагоддзя працы ў ДЮСШ Кузняцоў падрыхтаваў 30 кандыдатаў і майстроў спорту. Двое яго вучняў увайшлі ў склад зборнай Беларусі. Ды і іншыя хлопцы, якія не дасягнулі высокіх вынікаў, выраслі добрымі людзьмі. Падарункам свайму трэнеру сталі і шэсць першых месцаў на турніры, а ўсяго юныя глыбоцкія барцы заваявалі 13 медалёў рознай вартасці.

## Рана расслабляцца спажыўцу

У апошні час магазіны ў рэгіёне, уключаючы і Докшыцкія, паступова запаўняліся таварам і сталі выглядаць па-сучаснаму. Аднак пакупніку як і раней трэба быць пільным, што паказала апошняя праверка гандлёвых кропак гэтага раёна. З 13 даследаваных інспекцыяй Дзяржгандлю магазінаў райпо ў 11 устаноўлены факты рэалізацыі няякасных тавараў са скончаным тэрмінам захоўвання, а таксама з вытворчымі дэфектамі. Напэўна, клопат аб уласным спажыўцу не на першым месцы ў работнікаў прылаўка.

Чым тады растлумачыць той факт, што ўсяго правяраючыя забракавалі і знялі з рэалізацыі тавараў і прадуктаў на суму ў 665 тысяч рублёў. Пры праверцы каўбаснага цэха "Кааппрарыхтпрама" з чатырох выпушчаных у той дзень каўбасных вырабаў вагой 765 кг забракавана і не дапушчана да рэалізацыі 156,4 кілаграма. Асобныя батоны каўбас мелі сапсаваную абалонку, з плямамі сажы ад вэнджання, а 40 кг шпіка ў абалонцы ўвогуле не мелі паху і смаку вэнджання.

Былі зняты з рэалізацыі не толькі мясапрадукты, але і хлебабулачныя вырабы (66,3 кг), рыба, малочныя прадукты, торты і пірожныя. Нават спіртныя напоі страцілі свой таварны выгляд, на бутэльках была плесня. З-за гэтага былі зняты з продажы гарэлкі і віна на 1,4 мільёна рублёў. Многія тавары псуюцца з-за парушэння ўмоў захоўвання ў халодных цахах. Адсюль іржа на жалезных банках з кансервамі, сапсаваныя этыкеткі.

У палове правераных гандлёвых кропках не вытрымліваецца асартыментны пералік. У двух магазінах аблічвалі і абвешвалі пакупнікоў. Дарэчы, у кожным мяшэчку цукру і крупы, якія былі падрыхтаваны да продажу ў фасовачным цэху, быў недавес ад 5 да 10 грамаў. Тэрміны праверкі кантрольных шаляў для ўзважвання скончыліся яшчэ ў 1999 годзе. Як прынята, пасля праверкі цэлая група службовых асоб пакарана штрафамі і вымовамі. Але ці лягчэй ад гэтага пакупніку, які пастаянна рызыкуе сваім здароўем і траціць дарэмна грошы.

*У. Шык*

# Прыемная сустрэча ў Лучайцы

**Багатым і цікавым унутраным зместам характэрызуецца жыццё Лучайскай базавай школы. Асноўную частку яе візітоўкі складае калектыўныя творчыя справы вучняў, нестандартныя падыходы да арганізацыі пазакласнай работы па прадметах, краязнаўчая дзейнасць і працоўнае выхаванне школьнікаў.**

**Аднак, нягледзячы на гэта, мы, сельскія настаўнікі, адчуваем некаторы дэфіцыт узаемін і, наогул, лічым добрыя ўзаеміны вялікай раскошай. Па гэтай прычыне мы радуемся любому цікаваму госцю, які па волі лёсу аказваецца побач з намі. Вось пра адну з сустрэч я і хачу расказаць.**



15 лістапада 2001 года. Пад час экскурсіі ў краязнаўчы музей Лучайскай школы. Злева направа: Ю.Б.Саковіч, І.А.Пярэднеў, П.С.Нікіцін, Г.П.Дылевіч, Л.Ч.Рабіза.

15 лістапада 2001 года да нас у школу завіталі работнікі падатковай інспекцыі. Але інтарэсы ў іх на гэты раз адрозніваліся ад іх прафесійнай дзейнасці. Начальнік аддзела падаткаабкладання фізічных асоб інспекцыі дзяржаўнага падатковага камітэта па Віцебскай вобласці Ігар Анатольевіч Пярэднеў, знаходзячыся па службовых абавязках у Глыбоцкім раёне, не змог праехаць міма нашай Лучайкі.

А прыцягнула яго сюды тое, што ў далёкія 1957-1961 гады Лучайская школа была месцам працы яго бацькоў.

Бацька, Анатоль Пятровіч Пярэдня, быў дырэктарам школы, а маці Эльвіра Напалеонаўна Пярэдня (дзявочае прозвішча Сакалоўская) – настаўніцай пачатковых класаў. Як жа хацелася сыну прайсці па працоўных сцяжынках сваіх бацькоў, як ён марыў не адзін ужо раз ў як бацькі выехалі адсюль. І колькі ж было радасці, якім шчасцем засвяціліся вочы, калі на адным з фотаздымкаў ён убачыў дарагіх сабе людзей побач з выхаванцамі ля сцен былога будынка нашай школы. Удзячныя выпускніцы тых гадоў Ніна Іванаўна Пяткевіч (зараз Малатоўнік) і Леаніда Веніямінаўна Пачопка (зараз Дубовік) захавалі і зберагі невялікую фотакартку як памяць аб сваіх школьных гадах.

У нашай школе праводзілася вялікая даследчая работа па гісторыі сваёй школы. Яна была прымеркавана да 30-годдзя новага будынка школы. Я асабіста сабрала матэрыял і аформіла вялікі альбом летапісу, у які ўвайшлі многія звесткі, пачынаючы з 1964 года і па 1994 год. На ІІІ абласным конкурсе на лепшы летапіс навучальных устаноў у 1997 годзе нам было прысуджана



Лучайская школа 1959г. Першы рад: Анатоль Пятровіч Пярэдня (дырэктар школы), (Пярэдня) Сакалоўская Эльвіра Напалеонаўна (настаўніца малодшых класаў)

трапіць у гэтыя мясціны, якім вялікім было жаданне знайсці хоць бы тоненькую нітачку сувязі той далёкай пары з сучасным існаваннем школы! Заўважу, што сам Ігар Анатольевіч нарадзіўся ў г.Віцебску ўжо пасля таго, II месца, былі ўзнагароджаны Ганаровай граматай. Пад час даследванняў мы шмат чаго даведаліся і пра ранейшы перыяд існавання школы, калі яна месцілася ў старым будынку з 1943 па 1964 гады, тое-сёе ёсць і пра той перыяд, які цікавіў нашага госця. У бліжэйшы час мы ўжо мелі намер належным чынам аформіць і гэтыя матэрыялы, толькі ўжо не ў альбоме, а ў адной з экспазіцый краязнаўчага музея школы.

Сустрэча з І. А. Пярэднёвым акрыліла нас у гэтым плане, яшчэ раз паказала, што мы на правільным шляху, што наша праца патрэбна людзям, што мы павінны ведаць сваю гісторыю, захоўваць яе і перадаваць нашчадкам. Ігар Анатольевіч абяцаў расказаць пра свае ўражанні сваім бацькам, пакінуў і нам іх адрас і тэлефон. Думаю, гэта знаёмства дапаможа нам яшчэ лепш уявіць, якой была і чым жыла школа ў пасляваенны перыяд.

Некалькі слоў хачу сказаць пра самога Ігара Анатольевіча. Ён паланіў нас сваёй адкрытасцю, шчырасцю, дабрынёй, мудрасцю. Уяўляю, які гонар бацькам, тым больш настаўнікам, мець такога зайздроснага сына, які ў сваю чаргу так любіць і паважае сваіх бацькоў, разумее іх і берагае. Радуюся за вас, паважаныя Эльвіра Напалеонаўна і Анатоль Пятровіч, і ад імя ўсіх сваіх калег шчыра зычу вам моцнага здароўя, цудоўнага настрою, сямейнага дабрабыту, вялікай жыццёвай гісторыі і сілы. Карыстаючыся выпадкам віншуем вашага сына Ігара з юбілеем з дня нараджэння і жадаем, каб ён заўсёды заставаўся такім жа мілым і інтэлігентным, якім мы яго ўбачылі.

У гэты ж дзень нашага госця суправаджалі работнікі падатковай інспекцыі па Глыбоцкаму раёну: начальнік аддзела Леаніда Чаславаўна Рабіза і галоўны інспектар Пётр Сямёнавіч Нікіцін. Яны таксама праявілі вельмі жывы інтарэс да таго, што адбываецца ў маленькай сельскай школцы і былі прыемна здзіўлены велізарнай рабоце ў плане краязнаўства, выніковасцю работы членаў гуртка "Разьба па дрэве", цікавай пазакласнай рабоце па "Нямецкай мове".

А арганізавала нам гэту сустрэчу старшыня Залескага сельскага Савета Галіна Пятроўна Дылевіч.

Гэта невялічкі "астравок" узаемін пакінуў у нашых сэрцах адметны след, усяліў большую ўпэўненасць і веру ў свае сілы. А гэты артыкул і ёсць доказ таго, што сустрэча не пакінула нас раўнадушнымі.

*Завуч Лучайскай школы Юлія Саковіч*

**P. S.** *Адкрыты настаўнікам школы Р. Л. Шарыпкіным 23 лютага музей старой кнігі змясціў у адным з раздзелаў матэрыялы з гісторыі школы ў пасляваенны час, як і было задумана*

# Hluboka nad Vltavou

## Працяг тэмы

**Як ужо пісала "ВГ" [(№9 (100)], нам удалося знайсці кантакты з адміністрацыяй горада Глубока, што ў Чэхіі. Мы даслалі мэру Томасу Йірсу фотаздымкі нашага Глыбокага, і ён у адказе павіншаваў нас з выдатным і пекным месцам жыхарства, асабліва ў параўнанні з іншымі беларускімі гарадамі. Спадар Т. Йірса прапанаваў усталяваць кантакты паміж нашымі гарадамі. Ён напісаў, што чэшскі бок мог бы арганізаваць паездкі ў Глубока прадстаўнікам мясцовай выбранай улады. Аплату на сябе бярэ АБСЕ. Ён таксама заклікаў падумаць, у якім кірунку нашы гарады маглі б супрацоўнічаць, выказаў спадзяванні на далейшае супрацоўніцтва з намі.**

*Гутарыў з мэрам Глубокі над Влтавай Андрэй Храпавіцкі*



**На здымку:** г. Глубока над Влтавай. Сярод стогадовых дубоў стаіць паляўнічы замак Ограда, які пабудаваны ў 1708-13 гг. у стылі барока.

Мы вырашылі даведацца, як адрэагуюць на гэтую сітуацыю ў Глыбоцкім раённым выканаўчым камітэце. З пытаннямі на гэты конт мы звярнуліся да розных адказных асоб, у прыватнасці, да **Мікалая Аляксандравіча Стоцікa**, старшыні раённага савета дэпутатаў.

Нягледзячы на рознасць поглядаў, усе сыходзіліся на тым, што, хаця такіх "глыбокіх" у свеце, напэўна, не адна сотня, мы не супраць усталявання кантактаў з чэшскім гарадком. Наша моладзевая дэлегацыя можа наведаць іх горад, а мы прынядзь да сябе іх прадстаўнікоў. Можна супрацоўнічаць на ніве культурнага і спартыўнага абмену, пераймаць досвед у галіне развіцця чэшскіх фермерскіх гаспадарак.

Падобнае меркаванне, адносна цесных кантактаў з Глубока над Влтавай выказаў і **М.А. Стоцік.** У прыватнасці ён адзначыў, што найбольш трывалыя кантакты на сённяшні дзень у нас з прыбалтамі. Глыбоччына з'яўляецца членам Еўрарэгіёна **«Country of lakes»** ("Азёрны край"), куды, з беларускага боку ўваходзяць памежныя з прыбалтыйскімі краінамі Верхнядзвінскі, Мёрскі, Браслаўскі і Пастаўскі раёны. Беларускае бюро Дырэктарату знаходзіцца ў Браславе. Ім кіруе Алена Церпілоўская.

Глыбоччына наўпрост не мяжуе з прыбалтамі, але мы свайго дамагліся, і нас туды прынялі. Гэта становішча актуальна, калі згадаць, што паводле звестак, атрыманых з пашпартна-візавай службы, да нас штогод наведваецца да 700 чалавек, нашых землякоў, якія здаўна пражываюць у Прыбалтыцы. І тут вельмі важна спрасціць для людзей пераезд дзяржаўнай мяжы.

Членства ў Еўрарэгіёне "Азёрны край" для нас – вельмі карыснае. Тут супольна вырашаюцца праблемы аховы навакольнага асяроддзя, пытанні ў сацыяльнай сферы, займаемся развіццём культуры і турызму. Іх дэлегацыі прыязджаюць да нас, мы наведваемся ў Прыбалтыку. У нашых планах -- правядзенне некалькіх сумесных семінараў.

У нас, нават, ёсць свой сайт у інтэрнэце і там размешчана інфармацыя пра Глыбокае.

Так што і кантакты з Глубока над Влтавай для нас будуць карысныя.

*Ул. Скрабатун*

# Медыцынскі эксперымент

*Сафія Табола*

## Як я разумею сутнасць медыцынскага эксперымента, які зараз праводзіцца ў Віцебскай вобласці і мае думкі з гэтай нагоды.

**Але адразу скажу – словы "эксперымент" і «здароўе і жыццё чалавека» лічу паняццямі несумяшчальнымі, таму кожны раз здзіўляюся, калі чую спалучэнне "медыцынскі эксперымент".**

Фота IREX ProMedia

Прафесія медыка – самая гуманная, ва ўсялякім разе павінна быць такой. Урачу чалавек давярае жыццё і здароўе, сваё або блізкіх людзей і спадзяецца, што ў адносінах да яго (або іх) будзе выканана клятва Гіпакрата, якая ўжо 2400 год з'яўляецца маральным кодэксам медыкаў. А гучала яна так:

*"Клянуся... я накірую рэжым хворых на іх выгоды згодна маім сілам і ведам, не нанясу хвораму ніякай шкоды і несправядлівасці. Я не дам нікому смяротнага сродку нават па просьбе хворага і не пакажу шляху да такой задумы; таксама не ўручу жанчыне інструментарыя для аборту. Чыста і сумленна буду я праводзіць сваё жыццё і сваё лекарскае мастацтва (майстэрства). У які б дом я не ўвайшоў, я прыйду туды для карысці хворага і буду далёкі ад усяго няправільнага і несумленнага... Што б пры лячэнні, а таксама без лячэння не ўбачыў, што датычыцца жыцця хворага з таго, што нельга абвяшчаць, я змаўчу пра тое, што датычыцца жыцця хворага з таго, што нельга абвяшчаць, я змаўчу пра тое, лічучы такія рэчы тайнай."* ***(Тэкст клятвы з кнігі "Выбраныя творы Гіпакрата")***

У большасці сваёй медыкі працуюць сумленна і самаахвярна. Але абставіны, якія склаліся ў наш час у адносінах да аховы здароўя, а, значыць, і да хворых, і да медыкаў, выклікаюць пачуцці збянтэжанасці. Што ж такое ахова здароўя і здаровы чалавек? Па якіх крытэрыях можна меркаваць, у якім стане знаходзіцца наша медыцына?

Згодна вызначэнню Сусветнай Арганізацыі Аховы здароўя (далей СААЗ) называецца 6 галоўных умоў, якія і з'яўляюцца асноўнымі паказчыкамі стану аховы здароўя насельніцтва краіны. СААЗ паняцце "здаровы чалавек" вызначае так: «здаровым лічыцца чалавек, які жыве ў поўнай душэўнай, фізічнай і сацыяльнай гармоніі". Вось для таго, каб дасягнуць такой гармоніі ў грамадстве, СААЗ вызначаны ўмовы, выкананне якіх і характарызуе стан аховы здароўя.

**Першая ўмова** (вызначальная і самая галоўная) – гэта адлічэнні ўнутранага валавога прыбытку на патрэбы аховы здароўя. У нашай краіне гэтыя адлічэнні ў два разы меншыя, чым у Германіі, Польшчы, Англіі, але большыя на 30%, чым у Ліване, Руандзе.

**Другая ўмова** – даступнасць медыцынскай дапамогі. Стан спраў па гэтай умове ў Беларусі вельмі адрозніваецца ад стану ў краінах Еўропы. Медыцынская дапамога – гэта магчымасць кансультацыі спецыяліста, даступнасць стацыянарнага лячэння, магчымасць набыць лекі і магчымасць атрымання кансультацыі і медыцынскага нагляду ў рэабілітацыйны пасля хваробы перыяд.

Згодна артыкула 45 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь медыцынская дапамога ў нас бясплатная. Толькі ці так гэта? На бясплатнае лячэнне насельніцтва ўжо даўно не разлічвае. Усе клопаты па набыццю лекаў, шпрыцоў, капельніц дзяржава пераклала на саміх хворых. І асабліва пакрыўджанымі, крайнімі зноў аказаліся вяскоўцы. Яны могуць разлічваць гарантавана і своечасова толькі на першую меддапамогу на фельдшарска-акушэрскім пункце, а вось кансультацыі спецыялістаў для вяскоўцаў – паняцце праблематычнае. У Шаркоўшчынскім раёне толькі дзве вясковыя бальніцы і тры ўрачы. Абсталяванне ў тых бальніцах не адпавядае сучасным магчымасцям і патрэбам медыкаў і хворых. А на Беларусі ў 25 вясковых бальніцах і 91 амбулаторыі ўрачоў наогул няма. Вяскоўцы аддаленых ад райцэнтраў вёсак не ў стане атрымаць ліст непрацаздольнасці, бо не маюць магчымасці дабрацца да раённай паліклінікі. Напрыклад, у вёску Балбекі Шаркоўшынскага раёна аўтобус прыходзіць два разы на тыдзень, у аўторак і суботу, але ў суботу ў раёне толькі дзяжурны ўрач. Значыць, атрымаць кваліфікаваную дапамогу жыхары вёскі могуць толькі раз на тыдзень, бо хвораму чалавеку ісці да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку 3 км цяжка, а ў непагоду проста немагчыма. І гэта толькі адзін прыклад. А колькі такіх вёсак на Беларусі?

**Трэццяя ўмова** – імунізацыя. Адзіная ўмова, якая выконваецца адносна дзяцей, а вось з дарослым насельніцтвам справы значна горшыя. Сродкаў для вакцынаў, напрыклад, не хапае. Напэўна, таму і ўзнікаюць эпідэміі штогод, якія пакідаюць наступствы, ускладненні, пагаршэнні здароўя людзей.

**Чацвёртая ўмова.** Кваліфікаваная дапамога цяжарным. Толькі 20-24% родаў працякаюць нармальна – усе астатнія маюць ускладненні або паталогію. Гэта вынік стану з агульным здароўем насельніцтва. У хворай жанчыны не можа быць нармальных родаў. Узровень смяротнасці новароджаных невысокі, але фізічнае здароўе выжыўшых ніжэй усякай крытыкі, а асноўным метадам планавання сям'і з'яўляецца аборт.

**Пятая ўмова** прадугледжвае харчаванне насельніцтва. Па гэтым паказчыку Беларусь на адным з апошніх месцаў сярод краін Еўропы. Паняцце «голад» нашай краіне не пагражае, але наша меню не адпавядае медыцынскім нормам, якія выпрацавала СААЗ. Незбалансаванасць прадуктаў харчавання, аднастайнасць, невысокі працэнт вітамінаў (па гэтым паказчыку мы апошнія ў Еўропе) і якасць прадуктаў харчавання не адпавядае медыцынскім патрабаванням.

**І апошні паказчык** – чакаемая працягласць жыцця. Яшчэ 10 гадоў назад гэты паказчык складаў 70 гадоў. На пачатак 2002 года – 66,4. Пры гэтым мужчыны жывуць на 12 гадоў менш, чым жанчыны. Нават у гады вайны розніца была ў 6-7 гадоў. З 1993 года пачалося выміранне нацыі, калі смяротнасць перавысіла нараджальнасць. Прычым, на вёсцы ў 3 разы больш, чым у горадзе. Ну як тут не ўспомніць пра даступнасць медыцынскай дапамогі на вёсцы. І гэта пры чыстым паветры і нязначным працэнце смяротнасці ад траўм ( у горадзе гэты працэнт вышэйшы).

Год ад году медыцынскае абслугоўванне насельніцтва пагаршаецца. У бальніцах катастрафічна не хапае лекаў і абсталявання. Дзяржава свае эканамічныя праблемы перакладае на "худыя" плечы хворых. Найбольш пакутуюць пры гэтым малазабяспечаныя сем'і і інваліды. Да малазабяспечаных сем'яў можна аднесці і сем'і, дзе працуе адзін тата, а мама выхоўвае дзіця. А калі з'явіцца другое, то для сям'і гэта стане сапраўдным бедствам. Па статыстыцы са 100 дзяцей 89 хварэюць два, тры разы на год. А хвораму неабходны лекі і палепшанае, а іншы раз і спецыяльнае харчаванне. Усё гэта каштуе немалых грошай. Я запытала 9 жанчын у паліклініцы, у чарзе да педыятара. Усе яны, калі хварэла іх дзіця, залезлі ў даўгі.

Некаторыя катэгорыі хворых (у тым ліку і дзеці да трох год) маюць права на атрыманне лекаў або бясплатна, або па льготнай цане. Але фактычна гэты закон не выконваецца. У Шаркоўшчынскім раёне і ў снежні, і ў студзені аптэка лекі гэтай катэгорыі хворых адпускала некалькі дзён. А зараз уявіце сабе, як выжыць хранічна хвораму чалавеку, які атрымоўвае 57 400 рублёў і пры гэтым толькі на падтрымліваючыя прэпараты вымушаны аддаць 26 300 рублёў? Гэта пры ўмове, што не будзе абвастрэння.

Гэты артыкул невыпадкова пачаўся з напаміну аб клятве Гіпакрата. Назіраючы і аналізуючы вынікі медыцынскага эксперымента, я прыйшла да высновы, што не адпавядае ён галоўнаму паняццю медыцынскай гуманнасці. З першага студзеня, напрыклад, у Шаркоўшчынскай паліклініцы нельга было нават прайсці элементарнае абследванне . У лабараторыі адсутнічалі прабіркі! (А значыць не рабіліся аналізы крыві). Адсутнічала папера да апарата кардыяграм, плёнка для флёрографа. І хворыя варочаліся дадому, не атрымаўшы ўрачэбнай дапамогі.

Зараз вядуцца размовы аб платнай медыцыне. (Але спачатку трэба змяніць арт. 45 Канстытуцыі РБ). Магчыма, гэта і ёсць выйсце. Толькі пры існуючых даходах насельніцтва хто зможа аплаціць паслугі медыкаў? Колькі людзей, у першую чаргу хранічна хворых, будуць кінутыя сам-насам з хваробай?

Так, у большасці краін медыцына платная, але Беларусь займае адно з апошніх месц па грашовых даходах на чалавека ў Еўропе. А вяскоўцам лячэнне ўжо зараз недаступнае. Якія лекі можа купіць даярка, якая за месяц атрымала заробак у 9000 беларускіх рублёў? І яшчэ адзін момант эксперымента. Зараз практыкуецца дзённы стацыянар і вызначаны нормы знаходжання ў бальніцы. Такая форма лячэння мае права на існаванне. Я сама не магу ляжаць у бальніцы. Па-першае, у Шаркоўчынскай ЦРБ адсутнічаюць элементарныя ўмовы (мнагаместныя палаты да 9-ці чалавек, няма дзе памыцца, халодны санвузел). Па-другое, назіранне за боллю і пакутамі суседзяў па палаце адмоўна ўздзейнічае на стан чалавека. А дома і сцены дапамагаюць. Ды толькі зноў хачу прывесці вам прыклад. У жанчыны з аддаленай вёскі адкрыўся насавы краваток. Яна страціла многа крыві, і «хуткая дапамога» завезла яе ў бальніцу. Толькі 5 дзён дазволена трымаць такога хворага ў бальніцы. Потым яе выпісалі. І вось зараз гэта жанчына з хворым мужам адзін на адзін са сваёй хваробай. Чалавек ужо паджылы і далёкі ад медыцыны. Рэабілітацыяй павінна займацца, як Бог пакладзе. Адна справа, калі чалавек жыве недалёка ад паліклінікі і можа звярнуцца пры неабходнасці да ўчастковага ўрача, і другая, калі чалавек жыве ў вёсцы, у якую і дабрацца не заўжды можна. Фельдшары з ФАПаў не маюць транспарту і перагружаны работай. Колькі часу трэба, каб толькі дайсці да хворага, а калі іх 5, 10, ды ў розных напрамках? Ды яшчэ дзеці, да якіх трэба наведацца абавязкова. Ды яшчэ тэрміновыя выклікі... Адсутнічае тут гуманнасць ў адносінах да хворага і да медыкаў. Можа таму і не хапае ўрачоў на вёсцы?

Я не медык і не прэтэндую на экспертызу эксперымента. Але ніякіх змен да лепшага як чалавек, якому, на жаль, часта даводзіцца звяртацца за медыцынскай дапамогай, не бачу. Таму выказваю свае думкі. Бо здаецца мне, што вырашаць трэба эканамічны бок медыцыны, аховы здароўя, бо вельмі ўжо дарагія зараз дыягназы (ў сэнсе грошай). І самае галоўнае – прафілактыку хвароб гэты эксперымент не ўлічвае. Што дае падставу так сцвярджаць? Паспрабую растлумачыць. Агульнавядома, што асноўнай прычынай смерці сталі зараз:

**1.**Сардэчна-сасудзістыя захворванні;

**2.**Анкалогія;

**3.**Траўматызм.

Смяротнасць у групе насельніцтва з 20 да 60 гадоў (узрост працаздольнасці) вырасла за апошнія гады ў 1,8 раза. Вось дзе, здавалася б, поле дзейнасці для пошуку і эксепрымента. Толькі не чуваць нічога пра кабінеты псіхалагічнай дапамогі. Але ж сардэчна-сасудзістыя хваробы – гэта вынік стрэсаў і доўгатэрміновага нервовага напружання. Нічога не чуваць і пра санітарна-гігіенічную адукацыю насельніцтва па прафілактыцы анкалагічных захворванняў. А пра такую хваробу як алкагалізм наогул не ўспамінаюць. Калі толькі ў лячэбна-працоўны прафілакторый накіроўваюць тых, хто ўжо страціў чалавечае аблічча. А як жа з гуманнасцю ў адносінах да гэтых хворых? Яны ж таксама грамадзяне Беларусі.

Патанняў многа. Але ці вырашыць іх медыцынскі эксперымент? І нават калі зменшыцца колькасць "койкадзён" і стане здаравейшым насельніцтва, ці ўбачым мы станоўчыя вынікі ва ўмовах, вырашэнне якіх ва ўсім цывілізаваным свеце лічыцца першачарговай задачай.

Герб Пастаў



# На гадзінку ў Паставы

**По захаванасці культурна-гістарычнай спадчыны на Беларусі Паставы адносяць да гарадоў трэццяй катэгорыі. Глыбокае, як і большасць іншых, да чацвёртай. Сёння наша знаёмства з Пастаўскім палацам і яго заснавальнікам -- Антоніям Тызенгаўзам.**

**Паставы -- пажыццёвы канкурэнт Глыбокага, а мо` і наадварот. Мёры, Докшыцы, Шаркоўшчыну ў разлік не бяром. Ну а Браслаў? Там жа -- азёры! Беларуская Ніцца!**

**-- Што ваша Глыбокае ў параўнанні з Паставамі,-- кажуць пастаўчане, -- у нас тры начных крамы, а ў Глыбокім ніводнай! -- Затое ў нас Напалеон начаваў,-- абураюцца глыбачане,-- і назваў яго "другім Парыжам", дый касцёлы якія ў нас пекныя!**

**Некалі Уладзімір Ульянаў (ён жа Ленін), каб залагодзіць літоўцаў, падараваў ім вялікі кавалак нашай свяшчэннай беларускай зямлі. Яны ж доўга не цырымоніліся і паспелі на ласым кавалку зямлі перавярнуць на свой капыл нашы гарады. Вільню скавэркалі ў Вільнюс, а Гродна стала Гардынасам, Воранава перакруцілі на Варановас, Відзы ў Віджай, Свянцяны на Швянчоніс. Дзякуй Юзіку Пілсудскаму, які і бальшавікам, і літоўцам «натоўк у косці» і вызваліў нас ад тых і другіх. А то ездзілі б цяпер па візе ў Пастовіс, а не Паставы.**

## Палац Тызенгаўза

Будаўніцтва Пастаўскага палаца звязана, у асноўным, з імем Антонія Тызенгаўза, падскарбія Вялікага княства Літоўскага. Паводле інвентару 1783 года былі пастаўлены два бакавых флігелі (куханны і канюшанны) і закладзены падмурак асноўнага будынку. Абодва флігелі мелі мансарды і скляпенні. У куханным размяшчаліся: зала "Мар-шальская сталовая", "Людс-кая сталовая", жылыя пакоі, кузня, сталярня, слясарная, карэтныя майстэрні, каморы. У падвальным памяшканні -- шэсць пакояў, кухня, пякарня, дзве кладоўкі і невялічкая турма. На гарышчы была каўбасная. Корпус стайні, акрамя стойла для коней, змяшчаў і жылыя пакоі. У падвале трымалі харчовыя запасы. Мансарды выкарыстоўваліся для жылля. На ўсход ад палаца быў разбіты парк пейзажнага тыпу (плошча 10 га) з сажалкамі. Меўся сад і агарод. Праектыроўшчыкамі палаца мяркуюцца: І. Мезер -- архітэктар яго каралеўскай вялікасці, ці Л. Лютніцкі, які працаваў у Радзівілаў, а таксама А. Тызенгаўз, які цікавіўся архітэктурай і на адным з партрэтаў намаляваны з планам нейкага будынка ў руках. Наступны значны этап будаўніцтва палаца датычыцца 10-х гг. XIX ст. Верагодна, па ініцыятыве Канстанціна Тызенгаўза была ўзведзена каланада -- парадны пад`езд, што "глядзеў на мястэчка". З`явіўся новы фасад палаца, больш рэпрэзентатыўны. Павялічыліся абодва флігелі. Паўночная частка палаца была цалкам прызначана для навукі і мастацтва. Справа размяшчаліся залы для заняткаў арніталогіяй. Ствараліся кабінеты заалогіі, мінералогіі, этнаграфіі краю. Злева знаходзілася анфіляда пакояў з ляпнінай і мармуровымі камінамі, сцены якіх упрыгожвалі палотны знакамітых мастакоў. У другую, больш сціплую палову палаца, дзе пражывала сям`я Канстанціна, заязджалі з заходняга боку праз браму ў двор, куды выходзілі тры ганкі. Цэнтральны меў выгляд галерэі і вёў у жылое памяшканне -- пярэднюю і тры пакоі. У 30-я гг. XIX ст. на панадворку палаца гулялі паўліны, жоравы, бегалі паляўнічыя сабакі, зляталіся пародзістыя галубы. У перабудове палаца ўдзельнічаў, магчыма, А.Гойбель, па пра-екту якога ў гэты час быў узведзены касцёл у мястэчку Паставы. У канцы XIX -- 30-я гг. XX ст. пры Пшаздзецкіх быў рэканструяваны (пашыраны і ўпрыгожаны) ўсходні фасад. Агароджа з брамай зніклі. Унутраны двор падоўжаны на захад, дзе былі зроблены гаспадар-чыя пабудовы, клеткі для звяроў).

По апісанню 1947 г. палац спазнаў некаторую перапланіроўку і амаль страціў ляпныя і скульптурныя элементы.

Прыстасаванне пад бальніцу пацягнула за сабой і іншыя змены.

Палац Тызенгаўза -- выдатны помнік архітэктуры класіцызму. Сёння там вядуцца рэстаўрацыйныя работы. Нягледзячы на тое, што будынак палаца сёння выкарыстоўваецца пад медыцынскую ўстанову, тут ёсць невялічкая мемарыяльная экспазіцыя, прысвечаная А. Тызенгаўзу.



## Антоній Тызенгаўз

**1733 -- 1785**

У 1722 г. Бенедыкт Тызенгаўз атрымаў як пасаг за жонкай Ганнай Бяганскай фальварак Паставы, які потым быў падзелены паміж яго сынамі. Антоній выкупіў у братоў іх долю. Антоній Тызенгаўз (1733 -- 1785), падскарбій Вялікага княства Літоўскага, стараста Гродзенскі, быў выдатным дзеячом эпохі Станіслава Аўгуста, апошняга караля Рэчы Паспалітай, рэфарматарам, асветнікам, аматарам мастацтва. Ім былі заснаваны ў Паставах 15 прадпрыемстваў, сярод якіх цагельня, латунная майстэрня, паперня, палатняная мануфактура, гарбарня (апрацоўка скур), персіярня (выраб паясоў) і інш. Былі перабудаваны вятрак і вадзяны млын, узведзены першыя каменныя дамы. Забудова плошчы здзейснена пры ўдзеле вядомага італьянскага архітэктара Д. Сака. Мецэнат перавёў у Пастаўскі палац частку сваёй Гродзенскай інструментальнай капэлы і балетнай школы. Збіраліся распачаць тут і навучанне маляванню. Антоній не меў прамых нашчадкаў, і фальварак Паставы перайшоў да ўнука яго брата Міхася-Канстанціна (1786 -- 1853). Адслужыўшы у войску, цудоўна адукаваны чалавек К. Тызенгаўз заняўся арніталогіяй і зрабіўся заўзятым падарожнікам, сусветна вядомым навукоўцам, ганаровым членам еўрапейскай акадэміі навук. Сярод яго шматлікіх навуковых прац -- "Апісанне птушак усіх частак свету" ў 3 тамах. У Пастаўскім палацы быў створаны арніталагічны музей, які налічваў больш 300 экспанатаў. Знакамітымі былі і Пастаўская карцінная галерэя, бібліятэка. Сын Канстанціна Райнольд, аматар гісторыі і мастацтваў, ахвяраваў заалагічную калекцыю Віленскаму універсітэту. Былі вывезены таксама і палотны вядомых мастакоў: А. Дзюрэра, П. Веранэзэ, Ф. Снэйдэрса і інш. Наступны час фальваркам Паставы валодалі прадстаўнікі роду Пшаздзецкіх: Марыя (1827 -- 1890), у дзявоцтве Тызенгаўз, яе сын Канстанцін (1846 -- 1896) і сын Канстанціна -- Канстанцін Габрыэль (1879 -- 1966), апошні прыватны ўладальнік гэтых земляў. Пасля службы ў Расейскай і Польскай арміях Канстанцін Пшаздзецкі, асноўная рэзідэнцыя якога была ў Варапаеве, заняўся прадпрымальніцтвам: заснаваў там лесапільны завод, Гуцкі шклозавод, цагельню.

*Падрыхтаваў У.Скракбатун*





**На здымках:** Пастаўскі палац Тызенгаўза -- выдатны помнік архітэктуры класіцызму.

## "Gee.eM.Cee." ідзе ў народ

Глыбоцкая рэп-каманда **"Gee.eM.Cee."** (удзельнікамі якой з'яўляюцца Калеснікаў **"Rom.K."** Раман і Петрашоў **"Petrick" Кірыл**) у хуткім часе выпусціць адну са сваіх песняў ("Не все такие..!") на рэп-зборцы **"Extra Hip-hop"**. А таксама зусім нядаўна выйшла песня пад назвай "Репортаж", якая была зроблена сумесна з адной з найлепшых MC Беларусі Джокер (лідэр каманды "От и дО" – Мінск). Гэтую песню вы будзеце мець магчымасць пачуць на рэп-зборцы **"Hip-hop Nation-3"**. Кампазіцыя ўжо стала сапраўдным хітом. Таксама плануецца запіс песні сумесна з Поварам (слынным прадстаўніком беларускага хіп-хопа). Праз пару тыдняў **"Gee.eM.Cee."** збіраецца выступіць на адкрыцці канцэрту расійскага рэп-гурта "Каста".

Прыблізна ў пачатку лета **"Gee.eM.Cee."** сумесна з газетай "Вольнае Глыбокае", брэйкданс камандай **"Deep City Crew"** і мінскім канцэртным агенствам "Хіп-хоп Нацыя" плануюць правесці фестываль хіп-хоп культуры.

Жадаючыя набыць касеты альбо дыскі **"Extra Hip-hop"**, на якім акрамя трэка глыбоцкага рэп-гурта вы пачуеце такіх выбітных прадстаўнікоў рэп-музыкі, як Повар, Хлоп-Ч, **«От и дО»**, **«неSTANDARTный вариант»**, **«Городская тоска»** і інш., просьба тэлефанаваць па нумару **2-47-42** у Глыбокім і **2-39-93** у Горках. *MC FishKa*

## Рыцары, адгукніцеся!



Напрыканцы лістапада ў Мінску была створана Міжнародная Сярэднявечна Ліга, якую заснавалі прадстаўнікі 23-ох рыцарскіх клубаў з Беларусі, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны і Эстоніі.

Сярод заснавальнікаў – 17 беларускіх рыцарскіх клубаў, якія, дарэчы, не маюць дзяржаўнай рэгістрацыі. Усе стваральнікі Лігі займаюцца рэканструкцыяй зброі, вопраткі, посуду, а таксама падзеяў пэрыяду 9-16 стагоддзяў: дзяржаўных і этнічных утварэнняў Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Лівоніі, Прусіі, Залатой Арды, Русі. Сярод мэтаў новай грамадзкай арганізацыі – абараняць гістарычныя помнікі, прыцягваць да іх увагу людзей, абуджаць цікавасць да гісторыі. Зараз рыцары рыхтуюцца да мерапрыемстваў, што будуць праходзіць у 2002-ім годзе, у прыватнасці – да Другога сярэднявечнага фэсту "Наваградзкі замак", што запланаваны на 29-30 чэрвеня. На Першым Наваградзкім фэсце, дарэчы, вызначыўся майстэрствам, зброяй і яркай вопраткай рыцарскі клуб з Магілёву, пра які, на жаль, даўно нічога не чуваць.

«СВ»

# Глыбокае ў Інтэрнеце

**Як я абяцаў у мінулых нумарах, вашай увазе я прапаную агляд сайтаў пра Глыбокае.**

На жаль, пра наш рэгіён у Інтэрнеце не так шмат рэсурсаў. Хіба што, адным з першых сайтаў пра наш горад быў створаны У.Ізерскім. Размяшчаўся ён па адрасу **www.glubokoye.bizland.com** і ўключаў у сябе даволі багатую фотагалерэю, гістарычны аддзел, гасцявую кнігу. Але дзесьці з год назад амерыканскія серверы **Bizland** перайшлі на камерцыйную аснову і зачынілі аддзел бясплатнага хостынгу (размяшчэння сайтаў), у сувязі з чым, знік і праект глыбоцкага вэб-дызайнера.

Тым не менш, спадар У.Ізерскі распрацаваў яшчэ сайт для Глыбоцкага піўзавода. Сайт уключае як інфармацыю аб прадпрыемстве, так і раздзел пра наш горад.

Яшчэ адно прадпрыемства, што выйшла ў вэб-прастору – гэта "Аржаніца". Іх сайт **www.arzhanitsa.vitebsk.by** распрацаваў, як кажуць нашыя ўсходнія суседзі, "ваш покорный слуга". Тут інфармацыя пра прадукцыю кампаніі, прайсліст, гасцявая кніга. Сайт мае багата фотаздымкаў і мае нямецкую, англійскую і рускую версіі.

Напэўна, самы багаты да гэтага моманту сайт пра наш горад – дзіця рук супрацоўніка ПЭСа А.Жэлукевіча. Месціцца ён па адрасе – **www.glubokoe.narod.ru** і ўяўляе сабой уводзіны ў гісторыю і геаграфію нашых мясцін, мае шмат фотаздымкаў і будзе цікавым як тым, хто ніколі не быў у нашым горадзе, так і тым, хто хоча даведацца больш пра родны край. Сайт мае некаторыя краязнаўчыя матэрыялы, якія друкавала "Вольнае Глыбокае", што для нас прыемна, хоць згоды на передрук у нас ніхто не пытаўся. Зрэшты, мы разумеем, што такое Інтэрнет, дзе ўсачыць за аўтарскімі правамі нерэальна.

На сайце "Нашай Нівы" **(www.knihi.com/nn)** у архіве маюцца матэрыялы Ул.Скрабатуна пра наш горад. Яны друкаваліся ў гэтай слыннай газеце і ў асноўным закранаюць тэмы краязнаўства.

Цікава, што тэма гаратэлефанізацыі, на якой некаторыя прадпрымальнікі па чутках згубілі аж да 1000$, вельмі добра асветлена ў глабальным сеціве. На гэту тэму пісаў нават сайт Армянскага радыё. Пашукайце ў архіве. Пісала пра гэта і Беларуская дзелавая газета, чый сайт лічыцца адным з лепшых навінных рэсурсаў краіны.

Наш горад не дрэнна апісаны на турыстычным сайце **http://bi.org.by/turism/turGlubokoe.htm**. Тут і гісторыя, а калі пашукаць, тут знойдзеце і няддрэнныя фотаздымкі нашых адметнасцяў.

### «Вольнае Глыбокае» ў Інтэрнеце

Ну і нарэшце навіна ад "Вольнага Глыбокага". Гэты тыдзень – час афіцыйнага запуску нашага сайта ў Інтэрнет. Больш вам не спатрэбіцца шукаць нашы артыкулы на чужых старонках. Зараз у Інтэрнеце вы зможаце знайсці штотыднёвыя навіны газеты, архіў нашых старых матэрыялаў, якія толькі пачынае напаўняцца, фотагалерэю, клуб знаёмстваў, інтэрактыўны чат, форум на тэмы Глыбокага, нашай газеты, рэгіёна і шмат іншых, якія прапанаваць вы зможаце самі, тут будзе гасцявая кніга, праз якую вы зможаце непасрэдна кантактаваць з намі. У нас плануецца літаратурны аддзел, дзе вы зможаце размясціць свае творы. Увага! Прадпрыемствы рэгіёну! Зараз вы маеце ўнікальную магчымасць – за невялікую плату, ваша рэклама з'явіцца не толькі на старонках ВГ, але і ў Інтэрнеце. А гэта значыць, яе зможа прачытаць увесь свет.

*А.Храпавіцкі*

# Новы альбом Земфіры выйдзе 1 красавіка



Запіс і звядзенне новага, трэццяга па ліку альбому Земфіры скончаны. Астатняе -- справа тэхнікі і кампаніі **"Real Records"**, якая з`яўляецца нязменным выдаўцом усіх дыскаў спявачкі. У бліжэйшы час на цэнтральных тэлеканалах краіны з`явіцца новы кліп Земфіры на песню "Знак бесконечности", зняты ў Латвіі культавым кліпмейкерам Віктарам Вілксам, а 1 красавіка **"Real Records"** выпускае новы альбом Земфіры "14 недель тишины".

Падрабязнасці аб запісу альбома можна будзе даведацца на прэзентацыі, якая пройдзе 15 сакавіка ў адным з маскоўскіх клубаў

# Пра ўсё патрохсе

## Бомба ў Інтэрнеце

Абмен эратычнымі пасланнямі з незнаёмымі людзьмі праз Інтэрнет у нашы дні лічыцца справай звычнай і невінаватай. Але, як сталася, некаторыя жанчыны адносяцца да гэтага факта як да рэальнай здрады і помсцяць не менш жорстка. Так, 24-гадовая амерыканка Луіза Шанкмайр, знайшоўшы на стале мужа раздрукоўку сэксуальных пасланняў ад дзяўчыны, з якой ён ніколі не сустракаўся, не прыдумала нічога больш адмысловага, як закласці ў сістэмны блок самаробную бомбу. У выніку выбуху мужу знясло паў-твару і адарвала далоні. Так што друкаваць любоўныя пасланні ён сам ужо дакладна не зможа.

## Здаровае піццё

Галандскія навукоўцы ўстанавілі, што чалавек, які ўжывае алкаголь 2-3 разы на дзень, амаль не рызыкуюць стаць у старасці прыдуркаватым. Амаль усе, хто захварэў з выхадам на пенсію хваробай Альцгеймера, вялі занадта цвярозы лад жыцця. А вось аматары злёгку закінуць за каўнер застаюцца ў здаровым розуме. Дарэчы, алкаголь таксама зніжае верагоднасць утварэння тромбаў.

## Закапалі? Патэлефануй!

Італьянец Джузеппе Мілеццi вельмі пабойваецца быць пахаваны зажыва. Ён лічыць, што такое здараецца нашмат часцей, чым здаецца: людзі прыходзяць у свядомасць у забітай цвікамі і засыпанай зямлёй труне і паміраюць наноў у цемры ад удушша. Каб пазбегнуць такой скрушнай долі, Джузеппе сканструяваў адмысловую труну, якая начынена дыхальнай трубкай, якая выведзена на паверхню зямлі, а таксама сістэмамі светавой і гукавай сігналізацыі. Пахаванаму ў такой труне ўяўнаму мерцвяку трэба толькі націснуць кнопку, а потым спакойна чакаць эксгумацыі.

## Асёл-алкаголік

Нядаўна англійскаму ветэрынару Элізабет Свендсен прыйшлося набыць новую для яе спецыяльнасць – нарколага. І не таму, што яна перастала лячыць жывёл. Проста на працягу 3 месяцаў яна лячыла асла, які цярпеў вельмі нетыповым для жывёл захворваннем – алкагалізмам. А ўсё пачалося з таго, што гаспадар вырашыў дзеля жарту даць свайму асліку пакаштаваць піва…



Малюнак Ю.Лаўцэвіча

У гэтым нумары мы прыводзім кошты на парольны і беспарольны доступ да Інтэрнэту. Параўнайце самі, які варыянт для вас больш даступны. Парольнае падключэнне часта скарыстоўваецца прадпрыемствамі, і яно выгадна тым, хто збіраецца праводзіць у сеціве доўгія гадзіны. У дні тыдня такі варыянт куды больш выгадны. Беспарольны Інтэрнет – гэта больш просты варыянт. Не трэба забіваць сабе галаву паролямі і тым, што, як нагадвае Белпак, іх трэба прынамсі раз на месяц мяняць, а ў начы на святы і выходныя доступ вельмі танны. Таму, калі для вас Інтэрнет патрэбны хіба для адсылкі электроннай пошты, "беспаролька" – гэта добры варыянт, калі ж вы хочаце плаціць меньш, а сядзець больш, - парольны доступ можа быць найбольш аптымальным рашэннем.

### Парольны доступ да сеткі Інтэрнет

**1. Рэгістрацыя абаненту з дынамічным выдзяленнем IP-адраса Аднаразова 6 330р.**

**2.Прадстаўленне абаненту статычнага IP-адраса Аднаразова 1 800р.**

**Абаненцкая плата**

**1. Для каммутуемых абанентаў, у тым ліку па лініях ISDN (у месяц 1 800р).**

**2. Выкарыстанне статычнага IP-адраса (у месяц 850р)**

**Транспартныя паслугі**

**- з 08:00 да 20:00 у працоўныя дні 1 мін. 15.0р.**

**- з 20:00 да 08:00 у працоўныя дні 1 мін. 11.6р.**

**- па выхадных і святочных днях (24г. у сут.) 1 мін. 9.5р.**

### Беспарольны доступ да сеткі Інтэрнет

**(шляхам набору міжнароднага коду 8-600-100 (у Глыбокім – 8-600-100-1111).**

**- з 08:00 да 20:00 па працоўных днях 1 мін. 32.3р.**
**- з 20:00 да 02:00 па працоўных днях 1 мін. 17.2р.**
**- з 02:00 да 08:00 па працоўных днях 1 мін. 11.6р.**
**- з 09:00 да 02:00 па выхадных і святочных днях 1 мін. 11.9р.**
**- з 02:00 да 09:00 па выхадных і святочных днях 1 мін. 5.9р.**

# 23 сакавіка ў Мінску

**У Тэатры Эстрады ладзіцца «фестываль артыстычных дзівацтваў» «Сіні перац». Тое вызначэнне фестывалю дадзена самім арганізатарам Леанідам Нарушэвічам, ён жа «Князь Мышкін».**

У фэсце бярэ ўдзел Піт Паўлаў са сваім чарговым новым праектам. З прычыны прыроднае сціпласці Піта праект мае назоў **Pete Paff [Піт Пафф]**. Уяўляе з сябе фолькавую акустыку. Другі удзельнік праекту - Андрэй Сапаненка са сваім турэцкім бубнам - дарбукай. Магчыма з часам **«Pete Paff»** арганічна ўвальецца ў «Крыві», але Піт не выключае і яго далейшае самастойнай існаванне.

# Піце піва, мужыкі!

Мінская Аліварыя крыху змяніла дызайн этыкетак - 




усе надпісы на этыкетцы, апроч слова «Аліварыя», зробленыя рубленымі шрыфтамі.

Першая ў продажы з'явілася «Дзесятка», пэўны час у крамах магчыма было набыць абодва варыянты дызайну. Праз тыдзень на паліцах крамаў і шапікаў з`явіліся «Сталічнае» і «Мінскі бровар» з новымі этыкеткамі, а 5 сакавіка -- «Аліварыя Народнае».

Як заўсёды першым часам па з`яўленні новых этыкетак -- смак выдатны.

24-га лютага ў Мінску адбылася «Рок-каранацыя 2001», адным са спонсараў якой была «Аліварыя». Фірмовыя пакеты з півам выклікалі вялікі энтузіазм у выступоўцаў, а «Лепрыконсы» (невядома, якім дзівам патрапіўшыя на рок-імпрэзу) нават сцягнулі падчас свайго выступу некалькі пакетаў за кулісы. А галоўную карону далі Алесю Сушы за ягоныя знакамітыя супольныя праекты.

Надышла вясна - зноў з'явілася «Траецкае». Дызайн этыкеткі пакуль захаваўся, але шчыльнасць зноў варацілася да 14%, а мацунак павялічыўся да 6% аб. Як вынік, гэтае піва зноў можа пахваліцца сваім, некалі было згубленым, смакам.

Яшчэ адзін цёмны гатунак -- «Аліварыя Цёмнае» таксама падняў свой мацунак з 4,1 % аб. да 5,1. Смак някепскі, але «Траецкае» я люблю болей. Этыкетка таксама змянілася ў параўнанні з леташняй, але гэта ўжо не найнавейшы варыянт дызайну.

*«СВ»*

# Анекдоты

На Беларусьфільме здымаюць стужку пра партызанаў. Па сюжэце на партызанаў нападаюць немцы і адзін з хлопцаў цяжка паранены. Ён канае і кажа сябру:

-- Дабі мяне, братка!

Той бярэ нож, дабівае. Потым з аўтамата - усю абойму да апошняга патрона: тратататататататата! І яшчэ гранатай - ба-бах!

Партызан (слабым галасам):

- Дзякуй, братка!

***

Сядзяць тры мужыкі і глушаць метылавы шпірытус. Потым адзін устае і кажа: "Ой, хлопцы, нешта змяркаецца, пайду я лепей да хаты!"

***

Сын просіць у бацькі:

-- Бацька, дай аўтамата пастраляць!

-- Ты ж ня ўмееш, сынку.

- Умею!!

Дае. Сын страляе чаргой... усіх кур пастраляў.

-- Бацька, дай гранату!

-- Ты ж ня ўмееш сынку.

-- Умею!!

Кідае гранату, пацэліў у прыбіральню.. Кроў, шчэпкі

-- Малайчына, сынку. А то бы нам мамка за курэй дала бы!!!

# АФАРЫЗМЫ

Праца сапраўды зрабіла з малпы чалавека- аднак думка займацца працай магла прыйсці ў галаву толькі малпе.

Аўтамабіль -- гэта сродак руху, а бензін -- раскоша.

***

....дивчинка выделки не стоит....

***

Сямёра аднаго заўсёды знойдуць.

***

А люстэрка з ракніцы зноў з пмхмелля.

***

Галава сям'і -- не той, хто зарабляе грошы, а той, хто іх расходуе.

## *Дарагія Волечка і Мікалай!*

Сардэчна віншую з Днём нараджэння! Моцнага-моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, шчырых узаемаадносін, шчасця, здзяйснення запаветных мар, вернага кахання на доўгія гады жадаю Вам.

*Мама Ганна.*




## *Любая наша жонка, мамачка і бабуля*

## Мацяс Тамара Савельеўна

У твой юбілей прымі нашы віншаванні і найлепшыя пажаданні.

Сказать спасибо -- это мало
Мы все в долгу перед тобой
Дай Бог тебе здоровья, мама, --
Желанье всей родни большой
Твоё тепло, твоё добро,
Всегда оно нас окружает,
И станет на душе светло,
Когда твой праздник наступает.

*Муж, дзеці, унукі*



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Распоряжение | | Бог подзем. мира | | Полководец | Бразил. писатель | | Изысканный интеллектуал | Рыба |
| Черноморская акула | | | | | | | Участок земли | |
| Болотное растение | | | | Франц. Художник | | | | |
| | | | | Древний счетный инструм. | | | | |
| Движение куда-нибудь | Амер. боксер | Египетск. бог солнца | | Ограда | | Ударная часть инструмента | | Хоботное насекомое |
| Оружие Посейдона | | | | | | | | |
| | | | | | Разделительный союз | | | |
| Город в Голландии | | Мясное блюдо | Русский поэт | | Холодное оружие | | Высокая волна | |
| Актриса ("Зимняя вишня") | | | | | | | | |
| Водоем | | | | | | Преисподняя | | |
| Бараний горох | | | | Скупой человек | | | | |

# Бясплатныя прыватныя абвесткі

## ПРАДАМ:

-- Швейную машынку «UNION»,нажную, старадаўнюю. Глыбокае, 3-ці Савецкі пер-вул., д.18. Тэл.: 22152

-- Дом 1981 г. пабудовы, драўляны, абкладзены цэглай -- 65 м, веранда 25 м², двайное ацяпленне, вадаправод, вялікі блочны хлеў. Кошт 800 у.а. Шумілінскі р-н, в. Сураўні. Тэл.: 2 62 25 (Глыбокае)

--Газавае абсталяванне: ВАЗ, «Масквіч», за 50 у.а. Тэл.:39635

— Тэрмінова дом у в. Зарубіна (3км. ад Глыбокага). Ёсць хлеў, гараж, сад, участак 0,4га., склеп пад домам. Тэл:21827(прац), 26981(дам)

— Козы ў в.Пятроўшчына. Тэл.: 3 39 59.

— Тэрмінова прадаецца дом у в.Пятроўшчына з усімі гаспадарчымі пабудовамі, тэлефонам. Тэл.: 3 33 59

— Тэрмінова 2-пакаёвую кватэру ў в.Азярцы.Тэл.: 2 16 17

— Кацёл (новы) на цвёрдым паліве, электрапліту (б/у) з духоўкай Тэл.: 2 45 20 (у любы час)

-- «Рэно-21Д» (Невада) 1987 г.в. Тэл.: 24854

-- Тэрмінова двухпакаёвую кватэру ў раёне МКК. Тэл.: 25282 з18-00 да 19-00 (спытаць Сяргея)

-- Дом цагляны з усімі гаспабудовамі, у в. Пятроўшчына, танна. Тэл.: 33959

-- 4-пакаёвую кватэру ў раёне СПГУ. Глыбокае, вул. Міра д.22., кв.18. Тэл.: 23508 (пасля 17-00)

-- 3- пакаёвую кватэру, гараж, хлеў у раёне МКК. Тэл.: 24941

-- Прадаецца хата. Тэл.: 29362, 23333

-- Аўтамабіль ГАЗ-53 дызель у добрым стане. Тэл.: 26404, 27251.

-- Трысцен 3х10. Тэл.: 26543

-- Дом у г. Глубокае, вул. Камарова 11. Звяртацца г.Глыбокае, вул Леніна 24899

-- ВАЗ-011, рухавік 01, гандлёвую палатку 2х2. Тэл.: 25103

-- 2-х пакаёвую кватэру ў г. Глыбокае. Кошт 8500 у ё.а. Глыбокае, пер. Вольны Тэл.: 21300

-- Трактар карбюратарны, самаробны, навясны інвентар, прычэп, запчасткі. Тэл. 22819 пасля 17.00

-- ВАЗ011, гандолёвую палатку 2х2, рухавік 01. Тэл.: 25103

## ПРАПАНУЮ:

-- Брыгада будаўнікоў выканае любыя будаўніча-рамонтныя работы. Дызайн, перапланіроўка дамоў, кватэр, якасць гарантуецца. Тэл у Глыбокім: 21951 пасля 20-00

## КУПЛЮ:

-- БРЖ і скуры Тэл.: 22041 Пасведчанне №390144578 выдана 30.08.2001г Глыбоцкім РВК

-- Бочку металічную б/у., вул. Леніна 139 кв. 22 Тэл.: 24518

-- Электрарухавік, рэдуктар, мотарэдуктар, ціскі, накавальню, такарны патрон (можна б/у).Тэл.:8.02.96.41.95.40

-- Цэглу белую, сетку металічную. Тэл.: 24941

-- кватэру ў Глыбокім. Тэлефон: 2 17 58

-- Аўтамабіль замежнай вытворчасці да 700 у.а., можна, які патрабуе рамонту. Тэл.: 8(256) 23204

-- Жарабя (жаробка) цяжкавоза да 6-ці месяцаў. Тэл.: 39635

— Трактар МТЗ-80, 82 з навясным абсталяваннем. Тэл.: 2 71 43, 2 71 89.

— Дом у Глыбокім.Тэл.: 2 16 17

-- Рухавік «Опель-кадэт» 1,3Б. Тэл.: 38766 (увечары)

-- Вуллі тыпа Даданаўскія 24854

- Трактар МТЗ_80,82. Прапаноўваць любыя варыянты. Паставы 37792.

-- ВАВ-2121 «Ніва» і мадыфікацыі, Не растаможаны, біты, без дакументаў на з/ч, Прапаноўваць любыя варыянты. Тэл. у Новаполацку 824556530(раніца, вечар)

- 2-х ці 3-пакаёвую кватэру ў Глыбокім, ці дом. Тэлефон: 26079

-- 2-х- або 3-пакаёвую кватэру з выгодамі ў Глыбокім. Тэл.: 33919 пасля 18.00

-- 1-пакаёвую і 2-пакаёвую кватэры ў Глыбокім. Тэлефон: 24313

-- Маладая сям'я з двух чвлавек здыме кватэру з выгодамі і тэлефонам. Тэлефанаваць 24067 (пасля20-00)

*Для змяшчэння бясплатнай прыватнай абвескі запоўніце купон, выражце і дашліце на адрас: вул Шпітальная, 44, 211800, г. Глыбокае, альбо аддайце нашаму распаўсюджвальніку на рынку*

**Купон бясплатных абвестак**

АДРАС/ ТЭЛ

**Прадстаўніцтва Беларускага Хельсінскага Камітэту па правах чалавека ў Беларусі. Звяртацца ў Глыбокім па Тэл.: 26938, 28754. Псіхалагічная дапамога жанчынам. Тэл.: 26938**

**Неўзабаве**

**Міхаіл Галдзянкоў**

**Беларусь -- радзіма белай расы**

Набывайце газету **«Вольнае Глыбокае»** ў кіёсках **«Саюздруку»**, ў нашых распаўсюджвальнікаў, а таксама ў крамах: **"МКТ+"** і **"Соло"**.

"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; E-mail: vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на **"Вольнае Глыбокае"** абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 12 сакавіка 2002 г. у 13⁰⁰
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 1575